ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№7 (16) ліпень 2012 год

ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

Кошт свабодны

# Да Марыі...


Пілігрымка з Полацка.

**Летні перыяд для многіх католікаў Беларусі — час пілігрымак да санктуарыяў Маці Божай, якімі багаты наш край з даўніх часоў. У паломніцтвы выбіраюцца людзі розных узростаў і з рознымі малітоўнымі намерамі.**

**кс. Андрэй Рылка**

Сама традыцыя пілігрымак вядомая з даўнейшых часоў. Паломніцтвы былі і ёсць у розных рэлігіях і культурах. Калі гаварыць пра хрысціянскую традыцыю пілігрымак, то даследчыкі кажуць, што яна бярэ свой пачатак яшчэ з біблейскіх часоў. У старазапаветныя вякі юдэі вандравалі на Пасху ў Ерузалем, дзе знаходзілася адзіная святыня Бога. У новазапаветныя часы вызнаўцы Хрыста пачалі выпраўляцца ў паломніцтвы па Святой Зямлі – мясцінах, звязаных з жыццём Божага Сына.

У XVI ст. вялікай папулярнасцю пачалі карыстацца пілігрымкі да санктуарыяў Маці Божай. Найбольш значныя і шанаваныя пілігрымамі абразы Багародзіцы пачалі ўвенчваць аздобленымі каронамі.

У 1730 годзе адбылася першая каранацыя марыйнай іконы на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Папскія кароны былі ўскладзеныя на абраз Маці Божай Жыровіцкай. Па сённяшні дзень гэтая ікона карыстаецца вялікай малітоўнай пашанай не толькі сярод католікаў і праваслаўных Беларусі, але таксама вернікаў Рыма. Там копія абраза Маці Божай Жыровіцкай у выглядзе фрэскі была адкрыта пад тынкамі муру ў 1718 г. у касцёле святых Сяргея і Бакка. Перанесеная ў галоўны алтар, фрэска ўшаноўваецца рымлянамі як Мадонна дэль Пасcolа.

Наступная каранацыя абраза Маці Божай на беларускіх землях адбылася ў 1761 г. у Бялынічах – буйным тагачасным паломніцкім цэнтры. Да апошняга часу гэтая ікона лічылася страчанай. Выпадкова яна была знойдзеная за бакавым алтаром у касцёле ў Новай Мышы (Баранавіцкі р-н). Пакуль што эксперты не ўпэўнены ў тым, ці знойдзены абраз з'яўляецца арыгіналам, ці толькі невядомай найстарэйшай копіяй іконы.

*Працяг на стар.6*

# У гонар Папы


**У Мінску 29 чэрвеня 2012 г. адбыўся прыём з нагоды 7-годдзя Пантыфікату і 85-ці гадоў з дня нараджэння Яго Святасці Бэнэдыкта XVI.**

**Валянціна Грамыка**, *тэкст;* **Віталь Палінеўскі**, *фота*

Па запрашэнні Апостальскага нунцыя ў Беларусі арцыбіскупа Клаўдыё Гуджэроцці адзначыць гэтую падзею сабраліся ўсе каталіцкія іерархі Беларусі, Апостальскі візітатар для грэка-католікаў у Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек, прадстаўнік Праваслаўнай Царквы, прадстаўнікі грамадскай улады, дыпламатычных місій і Міністэрства замежных спраў.

Падчас адкрыцця цырымоніі прагучалі гімны Ватыкана і Беларусі.

Арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроцці, звярнуўшыся да прысутных на беларускай мове, назваў беларускі народ моцнай нацыяй, якая можа станавіцца яшчэ мацнейшай дзякуючы «інтэрвенцыям звонку». А гэта, як адзначыў папа Бэнэдыкт XVI у 2008 годзе, «патрабуе пастаяннага і разумнага дыялогу, заснаванага на сапраўднай салідарнасці, павазе да легітымных імкненняў, гістарычнай сітуацыі і адрознення ад іншых». Так, на думку арцыбіскупа Гуджэроцці, «любыя спробы размаўляць з беларускім народам на мове, якая не ўлічвае гістарычны вопыт гэтай краіны, будуць неэфектыўнымі», а роля Святога Пасаду «зводзіцца да намаганняў дазволіць адбыцца дыялогу, дыялогу ўнутры краіны і дыялогу на міжнароднай арэне».

*Працяг на стар.3*

## Увага! Падпіска!



**Дарагія сябры!**

Заахвочваем вас падпісацца на "Каталіцкі Веснік". Атрымліваць нашу газету праз пошту надзвычай зручна. Гэта – адзіны спосаб пачытаць выданне ў Брэсце, Мінску ці Гродне. **Кошт падпіскі на месяц – 2000 рублёў, на тры месяцы – 6000 рублёў, на пяць месяцаў – 10000 рублёў.** Аформіць падпіску можна ў любым аддзяленні "Белпошты".

**Наш падпісны індэкс – 63783.**

Дарагія браты і сёстры! Падпісваючыся на нашу газету, вы дапамагаеце нам абвяшчаць Евангелле, расказваць людзям пра Хрыста і яго Касцёл. "Каталіцкі Веснік" таксама можа быць добрым падарункам вашым блізкім. Падпішыце на яго сваіх сяброў і падарыце ім Добрую Вестку!

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

Добрая Вестка ў тваім доме! Каталіцкі ВЕСНІК №7(16) ліпень 2012 г.

# Прыгажосць – гэта асаблівасць Бога

**Прызнанне публікі, надзвычай вялікія ганарары, выступленне на лепшых пляцоўках свету – усё гэта абяцаюць тэнару-пачаткоўцу з Італіі. Аднак ні грошы, ні слава яму не патрэбныя: малады чалавек з'яўляецца законнікам і не збіраецца змяняць стыль жыцця.**

**кс. Віктар Місевіч**

Новым Лучана Павароці называюць 34-гадовага законніка Алесандра Брустэні з Асізі*. Заўважыў яго вядомы брытанскі прадзюсар, які прапанаваў манаху запісаць дыск на легендарнай студыі ў Лондане, дзе ў свой час запісваліся «The Beatles» і «Pink Floyd». Усе грошы, атрыманыя ад продажу дыскаў, пойдуць на дабрачыннасць.

Брат Алесандра кажа: "Гісторыя св. Францішка вельмі падобная да маёй. Унутры свайго сэрца ён вырашыў абвяшчаць Госпада музыкай, танцам, радасцю. І я адчуваю тое самае. Музыка для мяне – гэта прамая сувязь з Богам. Гэта шлях камунікацыі з Ім. І гэта шлях, які Бог выкарыстоўвае, каб камунікаваць з намі. Прыгожы шлях. Бо прыгажосць – гэта асаблівасць Бога".

Малады манах пачаў спасцігаць музыку ў якасці арганіста. Вельмі любіць Моцарта, Вівальдзі і Пучыні. Сярод сучасных кампазітараў Алесандра вызначае Майкла Джэксана, прызнаючыся, што ў юнацтве нават мог станцаваць яго знакамітую "месячную паходку". Сённяшняе яго музычнае захапленне – гэта ісландская спявачка Бьёрк.

Сольны дыск брата Алесандра ўжо запісаны. У продаж павінен паступіць у кастрычніку. Гэта будзе сумесь традыцыйных і сучасных рэлігійных спеваў, уключна з малітвай аўтарства святога Францішка.



А пакуль брат Алесандра працягвае рэалізоўваць сваё манаскае пакліканне ў Асізі, вітаючы пілігрымаў. У вольны час ён працуе цесляром, рэстаўруючы мэблю і робячы драўляныя амбоны. Такія розныя заняткі, спевы і цясляравства, адно аднаму не замінаюць, а толькі дапамагаюць жыць дзеля Бога і людзей. Бо такое пакліканне адчуў малады брат Алесандра, калі вырашыў ісці слядамі св. Францішка з Асізі.

*Асізі – горад у Італіі, радзіма св. Францішка Асізскага, заснавальніка ордэна Францысканцаў.

**На здымку:** брат Алесандра Брустэні

# У абарону нявінных



**Падчас агульнай аўдыенцыі 20 чэрвеня Папа Бэнэдыкт XVI звярнуўся з настойлівым заклікам спыніць у Нігерыі гвалт і тэракты супраць хрысціян.**

Ён сказаў наступнае: *"Я сачу з глыбокай увагай за навінамі з Нігеры, дзе працягваюцца тэрарыстычныя акты, скіраваныя супраць хрысціянскіх вернікаў. Я малюся за ахвяраў і за ўсіх, хто церпіць, а таксама звяртаюся да адказных за гвалт і заклікаю спыніць кровапраліцце столь-кіх нявінных людзей. Акрамя таго, я спадзяюся на поўнае супрацоўніцтва ўсіх членаў нігерыйскага грамадства, каб не быў абраны шлях помсты. Каб усе грамадзяне супрацоўнічалі ў пабудове мірнай супольнасці, у якой права на свабоду веравызнання будзе цалкам абаронена".*




**Даведка "Каталіцкага Весніка".** Тэрарыстычныя акты ў Нігеры арганізоўваюцца ісламскімі фундаменталістамі з секты "Бока-Харам". Яны дзей-нічаюць на поўначы краіны ідабіваюцца стварэння выключна ісламскай дзяржавы, кіраванай па законах шарыяту. Вельмі часта мэтай тэрактаў з'яўляюцца хрысціянскія храмы, дзе гінуць бязвінныя людзі. Усяго за адзін толькі 2011 год ад рук рэлігійных фанатыкаў загінула 465 чалавек.

*Паводле vatican.va*

Италия

# Мученик от рук мафии

**Бенедикт XVI признал мучеником итальянского священника, павшего от рук мафии.**



**На снимке:** священник Джузеппе Пульизи

Священник Джузеппе Пульизи был убит в свой 56-ой день рождения, в 1993 г. Он был настоятелем прихода в Палермо, в районе, контролируемом мафиозной «семьей Гравиано». В своей пастырской работе о. Джузеппе много внимания уделял молодежи, которую стремился уберечь от влияния мафии. Он часто прямо обращался к мафиози в своих проповедях, некоторые из них произносил под открытым небом, возле церкви. Священника застрелили на пороге приходского дома. Папа посчитал, что он пал жертвой ненависти на религиозной почве.

Решение относительно сицилийского священника было в числе других 17-ти декретов Конгрегации по канонизации святых. Один из них был утвержден Папой еще 10 мая, а прочие – на аудиенции 28 июня с.г., которую Бенедикт XVI дал префекту упомянутой Конгрегации кардиналу Анджело Амато, SDB. Это касается героических добродетелей епископа Альваро Дель Портильо, ближайшего сотрудника и первого преемника св. Хосемарии Эскривы в руководстве персональной прелатурой «Opus Dei».

Вообще испанцев затрагивают шесть обнародованных декретов. Четыре из них подтверждают факты мученичества времен гражданской войны. Мучеником провозглашен и Девасахайям Пиллай, обратившийся из индуизма в католицизм в XVIII веке. Два декрета признают истинными чудеса, произошедшие заступничеством «служителей Божьих», а 9 декретов подтверждают «героические добродетели». В частности, «служителями Божьими» провозглашены один неаполитанский кардинал XIX века и умерший 33 года назад знаменитый американский католический проповедник Фултон Шин из Ньюпорта.

*sibcatholic.ru*

Вялікабрытанія

# Пратэст біскупаў

**Канферэнцыя Біскупаў Англіі і Уэльса выступіла з публічным пратэстам супраць легалізацыі ў краіне аднаполых саюзаў. Такі законапраект распрацаваны ўрадам, які плануе ўвесці яго да 2015 г.**

Паводле інфармацыі Ватыканскага радыё, каталіцкія іерархі падкрэслілі, што дзяржава паклікана бараніць сужэнства паміж адным мужчынам і адной жанчынай. Толькі такі саюз забяспечвае спадчыннасць паміж пакаленнямі праз нараджэнне і адукацыю дзяцей. Дарэчы, заўважылі біскупы, распрацоўшчыкі законапраекта пра дзяцей проста забыліся. Каталіцкі Касцёл, як адзначылі іерархі, выступае супраць любой дыскрымінацыі і пацвярджае павагу да кожнай асобы, незалежна ад яе сексуальнай арыентацыі, але ніколі не ўспрыме падмены сужэнства іншымі формамі саюзаў.

У Вялікабрытаніі з 2005 г. афіцыйна рэгіструецца так званае «грамадзянскае партнёрства» паміж асобамі як рознага, так і аднолькавага полу. Такім парам дазволена ўсынаўляць дзяцей. Мэта новага закона – канчаткова зраўняць у правах традыцыйныя сужэнствы і аднаполыя саюзы.

*catholic.by*

# Каб былі адно...

**Адкрыццё памятнага знака ў гонар сяброўства і адзінства канфесій Іўеўшчыны – такой падзеяй адзначыўся сёлетні Дзень горада ў Іўі, што на Гродзеншчыне. 16 чэрвеня іўеўцы і госці ўрачыстасці распачалі дзень у сваіх святынях: каталікі – у касцёле св. апосталаў Пятра і Паўла, праваслаўныя – у царкве св. мучаніка дзіцяці Гаўрыіла Беластоцкага, мусульмане – у мячэці.**

Пасля малітвы за еднасць народаў, за мір у роднай краіне ўдзельнікі свята прайшлі ў працэсіях па вуліцах горада і сышліся на плошчы, дзе ўзвысіўся памятны знак з чатырох белых стромкіх арак, што сімвалізуюць чатыры канфесіі Іўеўшчыны. Падобныя да сцен адной пабудовы, кожная з арак павернутая да святыні або месца малітвы адпаведнай канфесіі – каталіцкай, праваслаўнай, мусульманскай і іўдзейскай. На арцы каталіцкай канфесіі змешчаны абраз бл. Яна Паўла ІІ у поўны рост і надпіс "Адчыніце дзверы Хрысту!"

У прысутнасці жыхароў Іўеўшчыны, мясцовага кіраўніцтва на чале з ініцыятарам гэтай значнай падзеі старшынёй райвыканкама Міхаілам Валчэцкім і прадстаўнікамі дыпкорпусу памятны знак быў асвечаны. Святары і прадстаўнікі канфесій звярнуліся з прамовамі да сабраных.

Ад імя Каталіцкага Касцёла выступілі кс. Ян Гавецкі і запрошаны на ўрачыстасць дапаможны біскуп Харкаўска-Запарожскай дыяцэзіі Ян Сабіла.

Гэты святочны дзень, напэўна, аб'яднаў усіх адным жаданнем – каб на іўеўскай зямлі заўсёды панавалі мір і згода. Так будзе, калі нашыя сэрцы застануцца адкрытымі для Бога, які ёсць любоў, міласэрнасць, дабро.

У гэты ж дзень 143 вернікі каталіцкай парафіі з Іўя атрымалі сакрамант канфірмацыі.

*catholic.by*



Гродзенская дыяцэзія




# У гонар Папы

*Пачатак на стар.1*

Апостальскі нунцый выказаў надзею, «што беларускі шлях да свабоды і справядлівасці будзе працягвацца і будзе кіравацца маральна прымальнымі прыладамі сучаснай эканомікі, не забываючы пра сацыяльную падтрымку».

Арцыбіскуп Гуджэроцці таксама падзякаваў дзяржаўным уладам за намаганні, скіраваныя на падтрымку рэлігійнай свабоды ў Беларусі. «Святы Пасад, – дадаў прадстаўнік Папы, – спадзяецца, што гэты працэс будзе працягвацца і будзе ўзмоцнены новымі крокамі і ініцыятывамі».

Прадстаўнік Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Мітрапаліта Філарэта протаіерэй Аляксандр Шымбалёў падкрэсліў, што Праваслаўная Царква ў Беларусі «вельмі цэніць добрыя адносіны з Касцёлам», бо гэтая сумесная праца ідзе на карысць народа.

Намеснік Міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Алена Купчына ў сваёй прамове адзначыла, што плённая дзейнасць Пантыфіка па распаўсюджванні справядлівасці ва ўсім свеце з'яўляецца найлепшым прыкладам служэння людзям. Паміж Святым Пасадам і Беларуссю, як заўважыла Алена Купчына, склаліся добрыя сяброўскія адносіны, а Святы Пасад з'яўляецца для нашай краіны надзейным партнёрам. Намеснік Міністра замежных спраў выказала надзею на далейшае супрацоўніцтва ва ўсіх галінах.

*catholic.by*



Мінска-Магілёўская дыяцэзія

# Моцны падмурак Валадарства

**Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч 17 чэрвеня 2012 г. здзейсніў асвячэнне вуглавога каменя пад будаўніцтва касцёла св. Антонія ў Магілёве.**

■ **Вікторыя Колзун**, *тэкст;* **Эдвард Кавалеўскі**, *фота*

У гамiлii, якую да магілёўскіх вернікаў прамовіў іерарх, ён адзначыў, што "асвячэнне вуглавога каменя нагадвае пра ажыццяўленне будаўніцтва матэрыяльнай святыні з мэтай стварыць у яе сценах Божае Валадарства. Божае Валадарства – гэта валадарства, збудаванае на моцным падмурку, якім ёсць Хрыстус, і з моцнага матэрыялу, якім з'яўляюцца сапраўдныя вернікі".

А вернікаў парафіі св. Антонія ў той дзень сабралося вельмі шмат, нягледзячы на тое, што парафія адносна маладая. Рэгістрацыю парафія атрымала ў 2004 г., але ўжо зараз налічвае каля 1000 вернікаў. Душпастырскую апеку над гэтай парафіяй ажыццяўляюць айцы-кларатыны – а. Юрый Вяшхоўскі і а. Віталь Чабатар. Парафія хутка развіваецца, мае шмат душпастырскіх рухаў: Хатні Касцёл, Легіён Марыі, Жывы Ружанец і нават свой парафіяльны хор, якому ўжо два гады.

Пробашч парафіі св. Антонія а. Юрый Вяшхоўскі расказаў "Каталіцкаму Весніку" пра новы касцёл, які будуецца ў стылі неаготыкі, у форме крыжа і будзе мець адну вежу. Вышыня касцёла 45 метраў. Плануецца, што пасля заканчэння будовы памяшканне касцёла, акрамя захрыстай і катэхетычнай залы, будзе мець канцылярыю, бібліятэку і сталоўку для бедных, для людзей, якія маюць патрэбу.

Такія падзеі ў жыцці Каталіцкага Касцёла ў Беларусі паказваюць нам, што вера людзей жывая, Касцёл развіваецца і, магчыма, ужо ў вельмі хуткім часе вернікі парафіі св. Антонія будуць мець сваю новую святыню, чаго ім ад усяго сэрца і жадаем.




## Ксяндзы марыяне запрашаюць ў чарговую пілігрымку Друя - Росіца.

Пілігрымка пачнецца 1 жніўня а 8 гадзіне Святой Імшой у Друйскім касцёле і скончыцца 3 жніўня ў Росіцкім касцёле. На працягу сутак з 3 на 4 жніўня ў Росіцкім касцёле адбудуцца ўрачыстасці ў гонар блаславёных пакутнікаў Юрыя Кашыры МІС і Антонія Ляшчэвіча МІС і святкаванне 100-годдзя касцёла ў Росіцы.

**Кантакт:** кс. Пётр Бярнацкі МІС +375-29- 892-23-20.

Добрая Вестка ў тваім доме! Каталіцкі ВЕСНІК №7(16) ліпень 2012 г.

# Калі п'е муж і бацька...



**Алкагалізм – гэта добраахвотна здабытая, цяжка вылечвальная хвароба душы і цела, якая з'яўляецца ў нас нацыянальнай бядою. Злоўжыванне алкаголем – асноўная прычына не толькі высокай смяротнасці часткі насельніцтва, але і галоўны фактар адсутнасці сямейнага дабрабыту. Чалавек, хворы на хімічную залежнасць, ніколі не бывае ізаляваны, заўсёды ёсць хтосьці блізкі побач, які намагаецца дапамагчы яму. Тым самым гэты блізкі сам становіцца ахвярай сітуацыі і з'яўляецца сузалежным*. Як пазбегнуць праблемы сузалежнасці і што рабіць, калі яна ўжо існуе? Па практычныя парады "Каталіцкі Веснік" звярнуўся да кансультанта па хімічнай залежнасці Таццяны Астроўскай.**

**– Таццяна, раскажыце, калі ласка, крыху пра сябе.**

– Я працую ў галіне наркалогіі і хімічнай залежнасці з 1998 года. Маю дзве вышэйшыя адукацыі, адна з якіх – псіхалагічная. Працавала ў праграме "Перекрёсток" расейскага дабрачыннага фонда "Нет наркомании". Зараз з'яўляюся кансультантам па хімічнай залежнасці.

**– А ў чым небяспечнасць сузалежнасці?**

– Сузалежныя людзі не могуць, і не ўмеюць будаваць нармальныя, здаровыя сямейныя адносіны. Часцей за ўсё яны бегаюць ад адной залежнасці да другой. Так, напрыклад, са стану сузалежнага чалавек пераходзіць у стан залежнага ад алкаголю, наркотыкаў, сэксу, ці проста становіцца працаголікам.

**– Як Вы думаеце, у чым цяжкасць дапамогі такім людзям?**

– Чалавек не можа пераадолець механізм адмаўлення сваёй праблемы, не можа прызнацца сабе і іншым, што мае нейкія праблемы ўвогуле. Немагчыма дапамагчы хвораму чалавеку, калі ён не прызнае сябе хворым і адмаўляецца прымаць лекі. Так і сузалежнаму чалавеку не дапаможаш, пакуль ён не прызнае сябе сузалежным. Часцей за ўсё чалавек разважае паводле прынцыпу: "Я такі добры, такі малайчына, шмат працую, цягну на сабе ўсю сям'ю... Гэта я вялікамучанік! А мой залежны п'е, нічога не робіць, не дапамагае, гэта ў яго праблемы, гэта яго хвароба, яго і трэба лекаваць". А зразумець сваю праблему такім людзям вельмі цяжка.

**– Як усвядоміць сваю сузалежнасць?**

– Каб чалавек захацеў нешта змяніць у сваім жыцці, яго павінна на гэта нешта моцна падштурхнуць. Гэта як з хваробай: калі нам штосьці моцна забаліць, мы ідзём да лекара. Вось у гэтым выпадку чалавеку павінна забалець душа, толькі тады ён можа ўсвядоміць, што ніколі не здолее справіцца са сваёй праблемай сам, без дапамогі.

**– Ці павінна аказвацца спецыяльная дапамога дзецям, якія жывуць у сузалежных сем'ях?**

– Безумоўна, дзецям у першую чаргу, патрэбна дапамога спецыялістаў. Калі яны гэтай дапамогі не атрымліваюць, то, як правіла, вырастаюць залежнымі і сузалежнымі яшчэ больш, чым іх бацькі, бо існуе ўжо і генетычная і псіхалагічная схільнасць. Дапамога абавязкова павінна праяўляцца ў працы с псіхолагам-спецыялістам, да якога яны маглі б звяртацца, альбо павінны існаваць адмысловыя псіхалагічныя групы, дзе дзеці маглі б адчуваць сябе ў бяспецы. Важна, каб дзіця магло выгаварыцца, камусьці расказаць пра свае праблемы і каб хтосьці яго пачуў, бо вельмі часта дома яго ніхто не слухае і не чуе. Калі дзіця пачынае сябе дрэнна паводзіць, прымаць алкаголь ці наркотыкі, хутчэй за ўсё гэтае дзіця проста патрабуе ўвагі да сябе, да сваіх праблем. Гэта такі своеасаблівы крык аб дапамозе. Канешне, псіхолаг не вырашыць усіх праблем гэтага дзіцяці, ён можа толькі выслухаць і дапамагчы ў псіхалагічнай падтрымцы, але нічога не зменіцца. Каб дапамога была больш дзейсная, патрэбна тэрапія для ўсёй сям'і.

**– Як змагацца з агрэсіяй у сям'і?**

– З агрэсіяй не трэба змагацца, трэба навучыцца яе разумець. Агрэсія ніколі не ўзнікае на пустым месцы, часцей за ўсё яна правакуецца сузалежным. Уявіце сабе, што Вы захварэлі і моцна пакутуеце, а з боку блізкіх людзей не атрымліваеце нічога, акрамя папрокаў і непаразумення... Так і з залежным. Ён хворы, і калі сузалежныя гэта усвядомяць сабе, то зразумеюць, што яго агрэсія зусім іх не датычыцца. Таму ў такой сітуацыі лепш проста прамаўчаць, адысці ўбок. Калі агрэсія мае фізічны характар, то трэба знайсці бяспечнае месца, дзе можна перачакаць гэтую хвалю.

**– Куды можна звяртацца па дапамогу тым людзям, якія ўсвядомілі сваю сузалежнасць?**

– Варта звярнуцца ў любы цэнтр "Ал-анон", што спецыялізуецца менавіта на дапамозе людзям, у якіх блізкі чалавек моцна п'е.

*Гутарыла Вікторыя Колзун*

**Ад рэдакцыі.** Інфармацыю пра групы "Ал-анон" можна знайсці ў Інтэрнэце або звярнуцца па наступных тэлефонах: Мінск: (017)256-24-70, (017)234-82-91, (017)242-92-28, (017)269-54-07, (017)239-94-19; Гродна: (015)770181; Брэст: 8-029-525-51-72

*Сузалежнасць – эмацыйны, псіхалагічны стан, які ўзнікае пры ўзаемадзейнасці тых, хто залежыць ад алкагалізму (залежны чалавек), і тых, хто клапоціцца аб іх (выратаўнікі – сузалежныя).

# Пад апекай святой Цэцыліі



**На здымку:** кіраўнік хору Вераніка Раманенкава.

**Нэлі Бяляўская**

*"Хто спявае – той двойчы моліцца"*
***Св. Аўгустын***

Сёння не кожная парафія ў Беларусі мае ўласны хор. А нашаму слаўнаму гораду Докшыцы пашчасціла мець каталіцкую Святыню, у якой дзейнічае змешаны (складаецца з мужчынскіх і жаночых галасоў) аматарскі хор. Дэбютаваў ён 4 красавіка 2010 года на найвялікшай урачыстасці – свяце Уваскрашэння Хрыстова. Хор адразу крануў прысутных сваёй моцай і шчырасцю, бо гэта было не проста звычайнае канцэртнае выкананне класічных рэлігійных твораў. Сваімі спевамі харысты ўпрыгожылі святочную літургію і напоўнілі кожнага з вернікаў шчырай малітвай.

Хто ж узяў на сябе абавязкі аб'яднаць людзей хрысціянскай песняй у адну групу? Чым павінны валодаць арганізатар і харысты? Пра гэта са слоў кіраўнік хору Веранікі Раманенкавай.

– Усе людзі, якія ўвайшлі ў хор, а іх 22 чалавекі, розныя па характары, роду заняткаў, узросце, – гаворыць Вераніка. – Сказаць, што мы спяваем прафесійна, пакуль нельга, але прафесійнасць – гэта не самае галоўнае ў рэлігійным спеве; галоўнае – выказаць спевам малітоўны сэнс. Спевы льюцца проста і шчыра, а гэта лепш, чым роўна і статычна выконваць строга тое, што напісана ў нотах.

Манера спеваў нашага хору робіць яго каларытным і па-свойму афарбаваным. Харысты спяваюць па нотах, хаця музычнай граматай валодае далёка не кожны. Зрокавае ўспрыманне спрыяе больш хуткаму запамінанню і дапамагае арыентавацца ў музычнай прасторы.

Песні гучаць па-беларуску, па-польску, па-руску, па-лацінску, па-англійску. У рэпертуар хору ўваходзяць творы розных жанраў, эпох і кампазітараў. Докшыцкія харысты выконваюць як шэдэўры сусветнай класічнай музыкі ("Аллелюя" з араторыі "Месія" Гендэля, "An die Freude" хор з 9-й сімфоніі Бетховена), так і простыя рэлігійныя песні ("Аллелюя, Бог ускрос", "А ўчора з вячора"). Удзельнічаючы ў літургіі Рымска-каталіцкага Касцёла, немагчыма абмінуць такі від песнаспеваў, як грыгарыянскі харал – спевы, з якіх вядзе адлік прафесійная каталіцкая літургічная музыка. Наш хор выконвае тыя старажытныя і распеўныя харалы XIV стагоддзя на лацінскай мове, каб захоўваць і ведаць глыбокую традыцыю касцельнай музыкі, бо менавіта яна – крыніца музычнай малітвы.

Нязмерную дапамогу пры арганізацыі хору і на працягу ўсяго яго існавання аказаў айцец Андрэй Жылевіч. Дырэктарам хору з'яўляецца брат Войтэк Врублеўскі, які вырашае ўсе праблемы, арганізоўвае рэпетыцыі, частуе прысмакамі. Упрыгожваюць музычна-інструментальны блок спеваў таленавітыя музыканты Таццяна Суднік (арган) і Святлана Дзехцяронак (флейта).

Звычайна перад кожнай рэпетыцыяй і заўсёды перад пачаткам імшы звяртаюцца харысты да Святой Цэцыліі, апякункі і заступніцы, якая захоўвае музычнае багацце Касцёла, каб зрабіла іх сэрцы і слых чулымі і яны маглі ўсёй душой праслаўляць Госпада Бога ў Тройцы Адзінага. І ў іх, на думку многіх, атрымліваецца гэта "на ўдатна". Пабываў з музычнай малітвай хор Докшыцкай парафіі Святой Тройцы ў Валкалаце, Даўгінаве, Гняздзілаве, Бярозаўцы, Порплішчы. Паўсюль славілі Бога. А той, хто спявае, той двойчы моліцца і тым самым ідзе па шляху да Неба.

# Адпачынак – асалода для душы і цела

**Без сумневу, адпачынак з'яўляецца вялікай радасцю пасля цяжкай працы. Каб чалавечы арганізм мог дзейнічаць у нармальным рытме, неабходна адпачываць. Як гэта робяць католікі, чытайце ў чарговым нумары «Каталіцкага Весніка».**

***Гутарыла Ірына Грэйць***



**Кс. Лешэк Вітвіцкі SDS:**

– Па тым, як адпачывае чалавек, можна вызначыць яго ўзровень жыцця. Адпачынак – мастацтва, якому патрэбна вучыцца. Яно дадзена чалавеку, каб набірацца духоўных і фізічных сіл. Ці ўсведамляе чалавек, што такое сапраўдны адпачынак? Можа, насамрэч гэта пустая трата часу? Адпачынак – пачатак усяго новага. Думаць па-новаму, паводзіць сябе іначай, але ўсведамляць тое, што было. Павінен быць час на роздум, а не на тое, каб уцячы ад праўды. Чалавеку не варта закрываць перад сабой тое, што ён перажывае, напрыклад, праблемы наркатычнай або алкагольнай залежнасці.



**Таццяна Кулевіч:**

– Для мяне сапраўдны адпачынак – пілігрымка да Маці Божай Будслаўскай. Каб перажыць гэты час з сябрамі і з Богам, я заўсёды бяру водпуск. Цяпер мая мара – пілігрымка ў Росіцу. Буду прыкладаць усе намаганні, каб туды трапіць. Нядаўна адкрыла для сябе новы адпачынак – «Школа малітвы Божым Словам» у Браславе. Гэтыя рэкалекцыі праходзяць цалкам у цішыні і маўчанні. Тады ёсць час на роздум, на малітву. Гэта добра, асабліва ў наш хуткаплынны час.



**Антон Шэлепаў:**

– Сваім адпачынкам я лічу кнігі. Нядаўна прачытаў твор «Белы клык». Захапляюць таксама і апісанні жыцця святых. Люблю спорт, асабліва футбол. А вось па-сапраўднаму набіраюся сіл кожны ранак, калі раблю прабежку. Фізічны адпачынак павінен сябраваць з духоўным, таму заўсёды з задавальненнем хаджу ў касцёл.



**Анастасія Паставалава:**

– Калі казаць пра адпачынак, то для мяне лета – гэта свята. Па-першае, ёсць магчымасць пакупацца і адпачыць на азёрах, па-другое – гэта канікулы! Здаецца, тры месяцы – так шмат, а насамрэч, калі адпачываць «па-поўнай», то гэта вельмі мала. Я б прапанавала вось так адпачыць... Сонца? Цёпла? Тады бяром ручнікі і сяброў і ідзём купацца! Зімна? Дождж? Не бяда! Можна паглядзець цікавы фільм ці прыбраць дома (дарэчы, гэта таксама цікавая справа). Абавязкова трэба памятаць пра Пана Бога, не забывацца на св. Імшу. Таксама можна ўзяць сваіх сяброў і пайсці ў пілігрымку ў Будслаў, а ў жніўні – у Росіцу. Калі ёсць лецішча, то можна крыху і папрацаваць, робячы прыгажосць вакол дома. А пасля працы абавязкова на возера – гэта прыносіць столькі эмоцый! Жадаю вам добрага лета, шмат цёплых уражанняў!



**Уладзімір Ермаловіч:**

– Адпачынак – гэта праца, якая прыносіць асалоду. Калі чалавек займаецца любімай справай, тады ён адпачывае і душой і целам. Але, лежачы на канапе, таксама можна адпачыць (усміхаецца). Мне задавальненне прыносіць рыбалка. Падабаецца таксама слухаць інструментальную музыку 60-х гадоў XX ст. Напрыклад, раю паслухаць Фрэнсіса Лея. Яго творы зачароўваюць, кранаюць душу.

# Якой будзе сям'я – такой і краіна

**Іна Сняжкова**, *тэкст;*
**Андрэй Мацур**, *фота*

**Гэта думка неаднойчы прагучала 30 чэрвеня ў касцёле св. Юды Тадэвуша ў Лучаі. Тут адбылося свята сям'і, якое сабрала разам святароў, спецыялістаў па праблемах сямейнага жыцця, сужонкаў і парафіян. У цэнтры ўвагі стаў крызіс адносін, што з усё большай сілай паглынае свет і нашу краіну ў прыватнасці.**

Сёння ў Беларусі распадаецца 80 (!) са 100 зарэгістраваных шлюбаў. Кожнае трэцяе дзіця расце без бацькі, кожнае чацвёртае нараджаецца ад адзінокіх маці. Мнагадзетных сем'яў у краіне — усяго 5%, а колькасць абортаў бесперарыўна расце. Такія дадзеныя падчас канферэнцыі прывёў заснавальнік і дырэктар дабрачыннага фонда "Адкрытыя сэрцы", кандыдат біблейскага багаслоўя Уладзіслаў Валаховіч. Яго выступленне аказалася надзвычай змястоўным. У. Валаховіч закрануў дэмаграфічныя праблемы сучаснага свету, трагедыі нежадання нараджаць дзяцей, пра шкоду кантрацэпцыі і абортаў для духоўнага, псіхалагічнага і фізічнага здароўя сужонкаў. Ён зарыентаваў слухачоў на цнатлівасць, шматдзетнасць, гарманічныя ўзаемаадносіны, заснаваныя на каханні і ўзаемапавазе.

Казанне прамовіў кс. Юры Вільк з Віцебска, нядаўна прызначаны душпастырам сям'яў Віцебскай дыяцэзіі. Душпастырам стаў невыпадкова. Рос у шматдзетнай сям'і – бацькі выхоўвалі васьмёра дзяцей. Вера у Бога памагла пераадолець усе цяжкасці, звязаныя з жыллёвымі умовамі. Кс. Юры упэўніў прысутных – калі Бог дае дзіця – то дапаможа яго выгадаваць.



Падчас святочнай імшы, якая адбылася пасля канферэнцыі, можна было ўбачыць прыклады дружных і моцных сем'яў з Пастаўшчыны, а таксама Шаркаўшчыны, Глыбоччыны, Мінска, Магілёва. Большасць з іх сёлета адзначылі юбілей сумеснага жыцця. Ва ўрачыстай абстаноўцы сем'і аднавілі сваю сужэнскую прысягу. Асаблівая ўвага была



**На здымку:** выступае бард Алесь Камоцкі.

скіравана на Часлава і Марыю Рачынскіх – якія сёлета адзначаюць "залаты", пяцідзесяцігадовы юбілей свайго вяселля.

Пасля імшы парафіяне зноў разважалі пра каштоўнасці сям'і. Перад імі выступілі госці з Мінска – Іна і Андрэй Любецкія, якія з'яўляюцца актыўнымі ўдзельнікамі руху "Сужэнцкія сустрэчы".

Скончылася свята сям'і выступленнем вядомага беларускага барда Алеся Камоцкага. Не пуставала і "Вёска майстроў" – Лучай наведалі ўмельцы з Шаркаўшчыны, клуб "Жаночы час", у шырокім асартыменце быў наладжаны продаж мёду.

Свята сям'і ў касцёле праводзілася ўпершыню. Першы блін камяком не атрымаўся, а, наадварот, запомніўся сваёй шчырасцю і змястоўнасцю. Парафіяне спадзяюцца, што правядзенне такога мерапрыемства стане новай выдатнай традыцыяй. Увогуле – ксёндз Мікалай мае ўнікальны талент ад Бога – арганізоўваць святы для парафіян і гасцей. Чарговы фэст святой Ганны абяцае адбыцца з размахам! Адбудзецца ён 28 ліпеня. Традыцыйна, у суботу а 17 гадзіне.

# Праз заступніцтва мучанікаў

**Падчас парафіяльнага Адпуста святога Яна Хрысціцеля 23 і 24 чэрвеня натоўпы пабожных людзей сабраліся ў мосарскім касцёле, знаходзячы палёгку ў цярпеннях, здароўе, вызваленне ад алкагольнай залежнасці, Божую ласку і благаслаўленне, пра якія прыходзілі прасіць святога Юстына- і святога Яна Хрысціцеля - мучанікаў.**

**кс. Аляксей Юркайць**

Цэлебрацыі Святых Літургій узначалілі святары з розных куткоў Беларусі. Айцец Андрэй Авен з ордэна Кармелітаў Босых на працягу двух дзён святкавання служыў у канфесіянале і прамаўляў прыгожыя навукі для вернікаў.

Радасць святкавання падзялілі з прысутнымі ксёндз Ян Крэміс, пробашч парафіі Святога Духа з Мінска, і ксёндз Мікалай Ліпскі з Лучая, што на Пастаўшчыне. Яны і ўзначальвалі Святочныя Літургіі.

Вернікі адчулі яскравае сведчанне прыгажосці і ўзнёсласці хрысціянскай Літургіі ва ўсходнім абрадзе падчас Акафісту да святога Яна Хрысціцеля, які праводзілі айцец Дзмітрый і айцец Аляксандр, што ўдзельнічалі ва ўрачыстасцi разам з хорам ўніяцкай царквы з Віцебска і Полацка.

Падчас святкавання адбывалася Ружанцовая малітва за сем'і, моладзь і дзяцей каля Мосарскіх капліцаў, малітва падзякі перад рэліквіямі святога мучаніка Юстына за скарб хрысціянскай веры і літанія да святога Юстына. А ўвечары дзякуючы дапамозе раённай улады госці свята прынялі ўдзел у святкаванні Купалля, у народных гуляннях.

Кульмінацыяй святкавання была візітацыя парафіі Яго Эксцэленцыяй біскупам Уладзіславам Блінам – Ардынарыем Віцебскай дыяцэзіі. Шмат радасці адчулі вернікі, вітаючы на свяце іерарха – пастыра дыяцэзіі. Старшыня парафіяльнай рады ўручыў ключ ад касцёла, бо біскуп – пробашч усіх касцёлаў дыяцэзіі. Парафіяне віталі шаноўнага біскупа духмяным караваем, хлебам-соллю і кветкамі.

Ва ўрачыстай Святой Літургіі таксама ўдзельнічалі ксёндз-дэкан Кшыштаф Сілкоўскі і айцец Вальдэмар Куява, францішканін з Удзела. Пасля адбылася працэсія вакол касцельнага парку.

Парафіяльны фэст і Адпуст дзякуючы ксяндзупралату Кшыштафу Мянкіну ўпрыгожыў узнёслым спевам хор "Fiat" з парафіі Унебаўзяцця НПМ і св. Язафата Кунцэвіча ў г. Мёры.

Яго Эксцэленцыя біскуп Уладзіслаў Блін падзякаваў усім вернікам за шчырую веру і малітву і ўдзяліў пастырскае благаслаўленне.

Усе прысутныя адчулі супакой і прынялі Божую ласку, каб праз год зноў прыйсці да святога алтара ў Мосарскім касцёле і ўзнесці малітвы падзякі, праслаўлення і просьбы да Усемагутнага і Найвышэйшага Бога праз заступніцтва святых мучанікаў.



# Да Марыі...

*Пачатак на стар.1*

У сваю чаргу вернікі сведчаць аб цудах аздараўленняў, якія зведваюць молячыся праз заступніцтва Маці Божай Бялыніцкай перад гэтым абразом у навамышскім касцёле.

На працягу XIX–XX стагоддзяў пілігрымкавы і каранацыйны рух на беларускіх землях трапіў у заняпад у сувязі з жорсткім пераследам Касцёла ва ўмовах Расійскай Імперыі, а пасля — Савецкага Саюза. Вернікі, на колькі маглі, пакрыёма падтрымлівалі пілігрымкавы рух да старадаўніх і новых санктуарыяў. Вельмі сімвалічнай і важнай падзеяй была каранацыя іконы Маці Божай Вастрабрамскай у Вільні ў 1927 годзе. Гэты паломніцкі цэнтр дачакаўся свайго каранацыйнага адзначэння адразу пасля вызвалення Вільні ад расійскага прыгнёту.

Адраджэнне Касцёла ў Беларусі пасля савецкіх ліхалеццяў спрыяла адраджэнню пілігрымкавага руху да марыйных санктуарыяў і каранацый найбольш шанаваных іконаў. Так, у 1996 годзе адбылася каранацыя абраза Маці Божай Брэсцкай, у 1997 г. — Маці Божай Лагішынскай, у 1998 г. — Маці Божай Будслаўскай, у 2005 г. — Маці Божай Кангрэгацкай (Гродна, катэдральны касцёл), у 2009 г. — Маці Божай Тракельскай.

Штогадовыя пілігрымкі да санктуарыяў Маці Божай збіраюць тысячы вернікаў з розных старонак Беларусі. Кожны з цудадзейных абразоў Багародзіцы з'яўляецца не толькі сведкам магутнага дзеяння Божай ласкі, але таксама гаворыць аб багатай хрысціянскай гісторыі гэтага краю і народа.

Надыходзячая пара пілігрымак можа стаць не толькі нагодай да адмысловага малітоўнага спаткання і сведчання веры. Святыя дні паломніцтва могуць быць таксама часам сустрэчы і знаёмства з багатай хрысціянскай спадчынай роднага краю.

*catholic.by,*
*друкуецца са скарачэннямі*

# Радасць дзяцінства

**Дзяцінства – гэта шчасце, радасць і першая любоў. У нашай душы нараджаюцца дабрыня, удзячнасць, разуменне. Мы адчуваем, як пяшчотна абдымае маці нашае малюсенькае цельца.**

**Антаніна Палінская**

Мы яшчэ дастаткова малыя, каб пазнаць усё, што адбываецца ў свеце. Нават само слова "жыццё" складана зразумець. Усё, што адбываецца навокал, – гэта таямніца. Ты сустрэўся з дзяцінствам, яно застанецца назаўсёды з табой самым яскравым успамінам. Усе мы хацелі б хоць на імгненне трапіць туды зноў, бо для многіх гэта – шчаслівая, бесклапотная пара, калі можна было лазіць па дрэвах, ляпіць кулічыкі ў пясочніцы, гуляць у хованкі.

Але, на жаль, бываюць моманты, калі гэты цудоўны час азмрочаны хваробай. І яшчэ горш, калі доўгі перыяд дзіця вымушана знаходзіцца ў лякарні.

Для таго, каб хоць крыху палепшыць гэтыя несправядлівыя абставіны, неабходна стварыць у бальніцы ўмовы, максімальна набліжаныя да дамашніх: утульныя, цёплыя, спрыяльны мікраклімат для хутчэйшай папраўкі дзяцей. Гэтым і заняліся валанцёры "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі, наведаўшы хворых, якія знаходзяцца на лячэнні ў дзіцячым псіхіятрычным аддзяленні Віцебскай абласной клінічнай псіхіятрычнай бальніцы.

І гэта толькі адна з акцый у дадзеным накірунку. У 2010 г. "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі пры фінансавай падтрымцы "Рэнавабіс" зрабіў рамонт паста ў дзіцячым псіхіятрычным аддзяленні Віцебскага абласнога клінічнага цэнтра псіхіятрыі і наркалогіі. І сёлета 1-га чэрвеня, калі адзначаецца Дзень абароны дзяцей, мы хочам парадаваць тых, хто знаходзіцца на лячэнні ў гэтай бальніцы, не толькі падарункамі і конкурсамі валанцёраў, але і жывым удзелам у іх штодзённых справах, клопатах і планах.




## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі. Жадаем усім Вам шмат Божай ласкі і Божага благаслаўлення!

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Марыя Кісель** (г. Глыбокае), **Аліцыя Трафімовіч** (в. Ліпнікі, Пастаўскі р-н), **Вераніка Абуховіч** (в. Дунілавічы, Пастаўскі р-н), **Эвеліна Клімантовіч** (г. Бярозаўка, Гродзенская вобл.), **Антаніна Палінская** (г. Віцебск), **Леанід Грыбач** (г. Гомель).

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожную першую суботу месяца адпраўляецца св. Імша.

Дарагія сябры, дапамажыце нам несці Добрую Вестку! Чакаем вашых артыкулаў, фотаздымкаў, ахвяраванняў. Разам мы зможам расказаць людзям пра Хрыста і яго Касцёл. Няхай Вас благаслаўляе Бог, а святыя апосталы заступаюцца за Вас у кожную хвіліну жыцця.

**P.S.** Наступны нумар "Каталіцкага Весніка" выйдзе ў жніўні пасля святкавання ўрачыстасцяў, якія пройдуць 17-18 жніўня ў Браславе.

Рэдакцыя
"Каталіцкага Весніка"

# Докшыцкі аазіс

Нэлі Бляўская, *тэкст;*
В. Чарвінскі, *фота*

**Сёлета на канікулы з Богам у Докшыцы сабралася большая колькасць дзяцей, чым звычайна: 80 чалавек.**

Традыцыйна сюды прыехалі падлеткі і моладзь з Мінска, Слоніма, Маладзечна, Віцебска, ёсць мясцовыя – з Докшыц і розных вёсак раёна. Асабліва шмат на гэты раз дзяцей з Бярозаўскай парафіі. Пасля таго, як там быў пабудаваны касцёл, дзеці дружна сталі яго наведваць. А сустрэцца летам са сваімі аднагодкамі, пазнаёміцца і знайсці сабе новых сяброў прыехалі ў Докшыцы. Менавіта тут, у святых сценах і са святымі айцамі, дзеці знаходзяць занятак для душы, рук і ног. Арганізатарам актыўнага адпачынку з'яўляецца сястра Маргарыта Аўгустын. Брат Войтэк песціць дзетак рознымі ласункамі і трохразовым гарачым харчаваннем. А дапамагаюць яму ў гэтым вучні старэйшых класаў, якія ў свой час ужо пабывалі ў аналагічных летніках.

Як адчуваюць сябе дзеці тут? Што новага ўбачылі і пачулі? На гэтыя пытанні мы хацелі атрымаць адказ ад дзяцей, якіх аб'яднала вера ў Бога.

**Эдуард, з Докшыц:**

– На канікулах у аазісе, што створаны пры касцёле, я адпачываю трэці год запар. Мне тут вельмі падабаецца. Айцец Віталік, сястра Маргарыта – такія цікавыя і завадныя людзі! З імі лёгка весці размову, цікава бавіць вольны час. Разам мы ганяемся з мячом, спяваем песні, удзельнічаем у спаборніцтвах. Сёлета з сабой у летнік я прывёў па прапанове бацькоў і пяцігадовага брацікa Ромку. Здаецца, што яму таксама гэты адпачынак прыйшоўся даспадобы.

**Вікторыя, з Крыпуляў:**

– Я на такіх канікулах упершыню. Мне прапанавалі паехаць сюды сяброўкі, якія ўжо адпачывалі такім чынам неаднойчы. Вельмі захапляльныя вакацыі! Тут заўсёды ёсць чым заняцца. Смачна кормяць, змястоўна расказваюць біблейскія гісторыі. Тлумачаць Святое Пісанне. Шмат даюць пазнавальнага.

**Настасся, з Бярозаўкі:**

Каб хто раней сказаў, што адпачываць у лагеры пры касцёле так весела і цікава, то ніколі б не пагадзілася. Калі сказаць чэсна, то я не зусім хацела сюды паехаць, бо дома знаходжу сабе справы. Але цяпер я вельмі задаволеная, што выкарыстала магчымасць адпачыць разам з Богам і аднадумцамі ў веры.

**Аня са Слоніма:**

– Зараз я працую аніматарам* і разам з малодшымі братамі і сёстрамі адпачываю. Мне вельмі падабаюцца Докшыцы. Тут добра арганізаваны адпачынак. Мы паспяваем усё запланаванае здзейсніць і ніколькі не стамляемся. Магу параіць кожнаму, хто атрымае газету ў рукі, што лепшага адпачынку няма, чым адпачынак з Богам.

Лагер для падлеткаў, што створаны пры касцёле, разгортвае шырокую духоўную прастору, вучыць дзяцей адносінам паміж сабой, павазе да дарослых, жыццю па запаветах Усявышняга. Як сказаў на святой нядзельнай літургіі пробашч касцёла Марэк Пасют, выказванне "Бог любіць тройцу" ведаюць усе, а вось далёка не кожны жыве па гэтым прынцыпе. У сям'і выхоўваюцца аднодвое дзяцей. А дзе ж трэці? У дзяцей вельмі развітае пачуццё самалюбства: яны хочуць мець усё, а дзяліцца з іншымі не жадаюць нават цукеркамі. Арганізоўваючы лагер, мы ставілі перад сабой мэту навучыць падлеткаў быць дзецьмі Бога, а таксама братамі і сёстрамі паміж сабой. Той, хто выконвае Божыя запаведзі, і ёсць нам брат альбо сястра. Хочацца дастукацца да розуму кожнага, хто ходзіць на святую імшу, бо казанні з вуснаў святара даюць шмат карыснага. Хто гэтага не чуе ці не ўспрымае, той глухі і сляпы. Адкрыць вочы дзецям і паказаць шлях у Неба – асноўная мэта стварэння аазісу.



*аніматар – тое, што і важаты;
*аазісамі ў каталіцкім душпастырстве часта называюцца летнікі для дзяцей імоладзі.

## Фэст у Паставах

13 чэрвеня ў нашым касцёле Антонія Падуанскага і Беззаганнага Зачацця НПМ адбылася вялікая парафіяльная падзея – ушанаванне апекуна парафіі Св. Антонія. На ўрачыстасць былі запрошаны прадстаўнікі з іншых парафій. Ладзіліся дзве святочныя Імшы з працэсіяй. Айцец Станіслаў Памыкала, які цэлебраваў Імшу, яскрава акрэсліў жыццёвы шлях Св. Антонія, пройдзены ў хвале Божай. Мы, парафіяне, павінны імкнуцца быць падобнымі да нашага святога апекуна: дбаць пра іншых, дапамагаць тым, хто мае ў гэтым патрэбу.

Пасля была арганізавана дабрачынная латарэя. А затым у рэкалекцыйнай зале адбыўся канцэрт духавой музыкі, падрыхтаваны навучэнцамі каледжа.

Гэтае свята яшчэ больш яднае нас, вернікаў, за што мы вельмі ўдзячныя нашаму апекуну Св. Антонію і нашым святарам.

**Аліцыя Трафімовіч,**
г. Паставы

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**15 ліпеня 2012 г.** **Мк 6,7-13**

Езус пасылае сваіх вучняў і надзяляе іх уладай над нячыстымі духамі. Місія вучняў – не іх асабістая справа, але справа ўсёй супольнасці. Знешняя падрыхтоўка і забеспячэнне – не самае важнае ў іх місіі. Найважнейшае – сама місія. Не патрэбны выгоды, важна данесці Слова Пана. Не ўсе разумеюць і не ўсе слухаюць місіянераў. У нашай рэчаіснасці таксама не ўсе нас слухаюць і не ўсе прызнаюць. Адкідаючы Божую місію, мы вельмі рызыкуем. Падвяргаемся небяспецы застацца без Бога, г.зн. без шчасця, без любові, без збаўлення, без прабачэння, без вызвалення навечна. За гэтае рашэнне давядзецца калі-небудзь адказваць. І не дапамогуць ніякія апраўданні і адгаворкі.

Прапаведнікі павінны дапамагчы людзям разбурыць унутраныя сцены, якімі адгароджваемся ад Бога. Прапаведнікі клічуць нас да пакаяння, выганяюць дэманаў і лечаць, бо якраз адсутнасць пакаяння, дэманы і хваробы перашкаджаюць Езусу ўвайсці ў нашае сэрца.

*– Ці памятаю, што Езус паслаў мяне да маіх блізкіх, каб я абвяшчаў Яго Валадарства?*

*– Ці ведаю, што Божае жыццё паміж намі – гэта справа ўсіх нас, а не маё асабістае захапленне?*

*– Ці не засяроджваюся занадта на знешніх праявах веры, забываючыся пра Езуса і сувязь з Ім?*

*– Ці разумею, што сустрэнуся з непаразуменнем і нежаданнем слухаць?*

*– Ці разумею сур'ёзнасць і адказнасць за прынятыя духоўныя рашэнні?*

*– Ці дапамагаю іншым бурыць іх унутраныя сцены, якімі ёсць нежаданне Бога і Яго спраў?*

*– Як змагаюся са злым духам?*

*– Ці малюся?*

*– Ці дапамагаю іншым людзям пазбавіцца ад няшчасця грэху?*

*– Ці прыношу людзям суцяшэнне ў іх цярпенні духоўным, маральным і фізічным?*

**22 ліпеня 2012 г.** **Мк 6,30-34**

Адпачынак – гэта частка працы. Каб любіць і добра выконваць Божую волю, трэба лічыцца з патрэбамі чалавечай натуры, з патрэбай адпачынку. Езус, спачуваючы людзям, з любові да іх прыйшоў з неба. Чалавеку без Бога вельмі лёгка прапасці. Жыццё без мэты, голад і смерць. Як авечка без пастыра. Езус прыносіць ежу, якая лечыць усе беды. Такой ежай з'яўляюцца Яго слова і навука. Гэта ежа насычае.

*– Ці ведаю слабасць сваёй натуры?*

*– А можа, не ўлічваю абмежаванняў і цяжкасцяў, якія вынікаюць з прыроды?*

*– Можа, апраўдваюся лжывa пільнай патрэбай, працуючы насуперак Божаму праву?*

*– Як выглядае мая праца?*

*– Як выглядае мой адпачынак?*

*– Ці з'яўляюцца яны выкананнем Божай волі?*

*– Ці дазваляю Езусу быць маім пастырам?*

*– Ці насычаюся Яго навукай?*

*– Ці дапамагаю Езусу карміць іншых?*

*– Можа, мне ўсё роўна, што хтосьці памірае ад недахопу Божай праўды, што жывуць без мэты і гінуць?*

*– Можа, я не спачуваю людской бядзе?*

**29 ліпеня 2012 г.** **Ян 6,1-15**

Размнажэнне хлеба – гэта знак, праз які Езус вучыць нас, што такое Святая Імша – Хлеб Эўхарыстычны. Цела Хрыста – гэта Хлеб для галодных людскіх душ. Ён дадзены нам дарма, і мы павінны быць за яго ўдзячныя. Ён прыгатаваны для многіх, і яго немагчыма з'есці за раз. Трэба ўжываць яго рэгулярна, каб усвядоміць усё багацце. Езус не хоча быць каралём па-людску, не хоча, каб мы думалі, што Камунія – гэта звычайны хлеб. Гэта Хлеб з неба. Гэта Таямніца, Якая аб'яўляецца ў нас, калі мы дазваляем Езусу ўсё больш і больш валадарыць у нашым сэрцы. Гэта басконцая прыгода і любоў.

*– Як прымаю Святую Камунію?*

*– Ці памятаю, што гэта – Езус?*

*– Ці дзякую Яму?*

*– Ці спадзяюся, што Ён заспакоіць голад майго сэрца?*

*– Ці памятаю, што жыццё духоўнае – гэта дарога, ідучы якой, мы ўвесь час наблізімся да Езуса?*

*– Ці ведаю, што гэта Ён праз маё рэгулярнае ўдзельніцтва ў Святой Імшы і прыняцце Святой Камуніі будзе мяне змяняць?*

*– Ці не змушаю Яго, каб быў такім каралём, якім я Яго сабе ўяўляю?*

*– Ці давяраю Яму і ці дазваляю, каб Ён навучыў мяне, як павінна выглядаць Яго Валадарства ў маім сэрцы?*

**5 жніўня 2012 г.** **Ян 6,24-35**

Людзі актыўна шукалі Езуса. Ён не вельмі захапляецца іх актыўнасцю. Гаворыць пра іх справы ясна і адкрыта. Звяртае ўвагу на недасканаласць іх інтэнцый. Заахвочвае іх да сапраўднага жыцця. Вучыць іх, што павінны паверыць у Яго і ў тое, што Ён пасланы Айцом. Цярпліва зносіць тое, што яны ўпарта дамагаюцца знакаў. Заявшчае Эўхарыстыю. Гаворыць пра Сваё Цела як пра ежу, здольную заспакоіць голад людскіх сэрцаў навечна. На Святой Імшы трэба шукаць задавальнення голаду нашай душы. З Імшы, як з крыніцы жывой вады, выплывае наша суцяшэнне, перамяненне і навяртанне. Прыходзім на Імшу з нашымі бедамі і радасцямі, нясём нашы праблемы і пытанні Богу. Імша – месца і прастора для духоўнай барацьбы і навяртання.

*– Ці не захапляюся празмерна сваёй рэлігійнасцю?*

*– Ці не забываюся ўслухоўвацца ў слова Пана?*

*– Ці разумею, што Езус зможа ўбачыць маю недасканаласць і ўдасканаліць мяне?*

*– Ці дазваляю Езусу змяняць мяне?*

*– А можа, упарта трымаюся сваіх жаданняў і не дазваляю Езусу мяне асвяціць?*

*– Ці насычаю свой голад на Святой Імшы?*

*– Ці шукаю на Святой Імшы крыніцу новага жыцця?*

*– Ці прыношу Богу на Імшу сваё жыццё?*

*– Ці клапачуся пра добры ўдзел у Святой Імшы?*

*– Ці разумею, што Святая Імша – гэта галоўная крыніца маёй сілы?*

*– Ці імкнуся даведацца пра сэнс літургічных знакаў і жэстаў?*

*– Ці стараюся зразумець прамоўленае слова?*

*– Ці малюся імшальнымі малітвамі?*

*– Ці засяроджана прымаю Святую Камунію і ці дзякую Пану Богу?*

Рубрыку вядзе
**кс. Павел Кнурэк**

# Дыяцэзіяльная сустрэча моладзі

**15 жніўня, серада**
**16.00** – пачатак рэгістрацыі;
**17.30** – афіцыйны пачатак Дыяцэзіяльнай сустрэчы моладзі;
**18.30** – падрыхтоўка да Св. Імшы;
**19.00** – Св. Імша;
**20.00** – вячэра;
**21.00** – канцэрт – "Мараната", Брэст;
**22.00** – позірк Маці, праслаўленне.

**16 жніўня, чацвер**
**8.30** – сняданне;
**9.00** – ранішнія малітвы, праслаўленне;
**9.30** – канферэнцыя.
**Праца ў групах**
**12.00** – Св. Імша;
**13.00** – абед;
**15.00** – гадзіна Божай Міласэрнасці;
**15.30** – канферэнцыя;
**19.00** – вячэра;
**20.00** – канцэрт, гурт "Подых духа", Пінск;
**22.00** – позірк Маці, праслаўленне.

**17 жніўня, пятніца**
**8.30** – сняданне;
**9.00** – ранішнія малітвы, праслаўленне;
**9.30** – канферэнцыя;
**Праца ў групах**
**12.00** – Св. Імша;
**13.00** – абед;
**15.00** – гадзіна Божай Міласэрнасці;
**15.30** – канферэнцыя;
**16.45** – Крыжовы Шлях;
**18.00** – Св. Імша з удзяленнем сакраманту Канфірмацыі;
**19.00** – канцэрт хору і аркестра з Мінска;
**20.00**–пачатак начнога малітоўнага чування перад Урачыстасцю Маці Божай – Валадаркі Азёраў. Першая частка Св. Ружанца – таямніцы радасныя;
**21.00** – Акафіст да НМП;
**22.30** – набажэнства Тэзэ.

**18 жніўня, субота**
**24.00** – Св. Імша;
**01.00** – Ружанцовая працэсія са свечкамі;
**02.00** – Адарацыя;
**06.00** – гадзінкі да НМП;
**07.00** – Трэцяя частка Св. Ружанца – таямніцы балесныя;
**08.00** – Св. Імша;
**09.00** – чацвёртая частка Св. Ружанца – таямніцы хвалебныя;
**10.00** – падрыхтоўка да Св. Імшы;
**11.00** – галоўная ўрачыстая Св. Імша са святарскімі і дыяканскімі пасвячэннямі.




# Паўстагоддзя без Імшы



**Колькі б гадоў грэшны чалавек у сваёй нянавісці ні змагаўся з Богам, колькі б ні знішчаў слугаў божага алтара, колькі б ні руйнаваў святыняў, а Касцёл Хрыстовы працягвае жыць. Жыць і маліцца, нават за тых, хто яго праследуе, заўсёды памятаючы словы Збаўцы: "Зло перамагайце дабром."**
**■ кс. Аляксандр Грыцкевіч**

І вось адну з такіх перамогаў 17 чэрвеня 2012 года святкавалі вернікі парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Марыі Панны з вёскі Мікалаёва, што за 10 кіламетраў ад Дзісны. А святкаваць сапраўды было што: пасля больш чым паўвекавога перапынку ў сценах мікалаёўскага касцёла гучала Божае слова і адпраўлялася святая Імша.

Яшчэ 65 гадоў назад у Мікалаёве былі ўласная парафія і касцёл Усіх Святых і святога Антонія. Але знайшліся ліхія людзі, якія пастанавілі знішчыць і парафію, і касцёл: святароў, якія тут працавалі, арыштавалі і "як шпіёнаў Ватыкана і ворагаў народа" выслалі ў Сібір, а святыню ператварылі ў зернясховішча. І такім чынам бязбожнікі думалі, што каталіцкае пытанне ў Мікалаёве закрытае. Але як памыляліся грэшнікі, лічачы, што калі пазбавіць статак без пастыра і аўчарні, то статак загіне. Езус Хрыстус – Найвышэйшы Пастыр, ніколі не пакідае сваіх верных, не пакінуў Ён і мікалаёўцаў. Мясцовыя каталікі, верныя Богу, патаемна прымалі сакраманты ў іншых парафіях, маліліся па дамах, потым пачалі даязджаць на святую Імшу ў Дзісну.

А 12 чэрвеня 2012 года, натхнёныя Святым Духам вернікі Мікалаева сабраліся, каб навесці парадак у сваім касцёле, які за гады бязвер'я людзі ператварылі ў сметнік. І з дапамогай святога Антонія і Усіх Святых, а таксама дзякуючы падтрымцы добрых людзей, касцёл падрыхтавалі да ўрачыстасці. Канешне, касцёл і надалей застаецца моцна пашкоджаным: няма даху, акон і дзвярэй, але гэта святыня – месца, выбранае Богам і намоленае тысячамі людзей.

Нядзеля, 17 чэрвеня 2012 года, стала гістарычнай для мікалаёўскіх вернікаў. Нарэшце яны разам з ксяндзом Аляксандрам Грыцкевічам сабраліся на супольную малітву, нарэшце святар адправіў святую Імшу і людзі прымалі Езуса ў Эўхарыстыі, нарэшце мікалаёўцы адчулі сябе супольнасцю Каталіцкага Касцёла. Падчас Імшы шмат было радасці і ўзнёслых эмоцый, а кожнае слова малітвы шчыра перажывалася і глыбока западала ў сэрца. А пасля ўрачыстасці водар святасці, выплыўшы з касцёла, як пах кадзідла, яшчэ доўга лунаў па мікалаёўскіх вулачках.

Няхай жа Божы Провід і надалей спрыяе развіццю і пашырэнню веры ў нашым краі. Няхай Дух святы адраджае парафіі, а Маці Божая заступаецца за святароў і вернікаў!

# ФЭСТ СВЯТОЙ ГАННЫ Ў ЛУЧАІ 28 ліпеня

**Парафія св. апостала Юды Тадэвуша ў Лучаі (Віцебская дыяцэзія, Пастаўскі дэканат) запрашае ўсіх жадаючых прыехаць і супольна памаліцца і адпачыць духоўна на Лучайскім фэсце, які будзе праводзіцца ў гонар святой Ганны 28 ліпеня г.г., пачатак у 17:00.**

Сёлетні фэст мае быць добрай нагодай, каб чарговы раз шчыра праславіць Бога праз заступніцтва нашых святых апекуноў. Будзе нагода духоўна ачысціцца ў сакрамэнце споведзі і трываць на адарацыі. Галоўным пунктам свята будзе ўрачыстая святая Імша, якую правядзе пробашч "Чырвонага касцёла" з Мінску кс. Уладзіслаў Завальнюк. Таксама асвячэнне чарговых барэльефаў, якія ствараюць унікальнае Евангелле ў абразах вакол святыні.

А пасля, як звычайна, будзе святочная праграма з "Лучайскімі пачастункамі", забавамі, "Вёскай майстроў", узнагароды для футбольнай каманды сярод міністрантаў (матч пройдзе ў гэты дзень) і канцэрт з удзелам вядомых чатырох гуртоў. Закончэннем фэсту – фаер-шоў з выкананнем новай песні аб Лучаі.

Той, хто хоць аднойчы пабываў у Лучаі, хоча прыехаць ізноў. Таму шчыра запрашаем Вас запланаваць гэты дзень для Лучая!!!

Святыня адчынена кожны дзень для наведвання. Дадаткова з 30 чэрвеня працуе фотавыстава беларускага фатографа Віталя Раковіча "Святло беларускіх храмаў".

**Запрашаем! Будзем рады Вас бачыць!**

**Кс. Мікалай Ліпскі**

**ПРАГРАМА:**
**СВЯТЫЯ – НАШЫЯ СЯБРЫ НА ШЛЯХУ ДА НЕБА!**
**17:00** - Адарацыя
**17:30** - Святая Імша за ахвярадаўцаў
**18:30** - асвячэнне барэльефаў
**19:00** - мініфэстываль з пачастункам і забавамі
**22:30** - фаер-шоў

# Незабыўныя дні

**З 18 па 26 чэрвеня звыш трох дзясяткаў хлопчыкаў і дзяўчынак з парафіі Святой Тройцы, што ў Глыбокім, адпачывалі ў летніку "Надзея", які знаходзіцца ў Пятроўшчыне.**

Як і кожны школьнік, я вельмі люблю летнія канікулы. Але, напэўна, самыя памятныя дні праведзеныя былі якраз у летніку ў Пятроўшчыне. Яны падарылі мне новых сяброў, яркія ўражанні. Кожны дзень мы ўдзельнічалі ў Св. Імшы, у супольных малітвах, славілі Бога спевамі.

Хапала часу на розныя гульні і конкурсы, паходы на возера. Амаль кожны вечар была дыскатэка. А як смачна нас кармілі! А ўвечары 23 чэрвеня мы ездзілі ў Мосар на ўрачыстасць Св. Яна Хрысціцеля. Пасля Св. Імшы ўся дружна сабраліся ля вогнішча, дзе адбыўся канцэрт, а затым ладзіліся танцы. У апошні вечар дзяліліся ўражаннямі, а ішчэ прасілі прабачэння за ўчыненыя крыўды. Дадому вярталіся з надзеяй на сустрэчу ў летніку праз год.

Шчыра дзякуем за клопат і апеку с. Ганне Блышко, бр. Максіму, кс. Мечыславу, а. Станіславу, аніматарам і повару.

**Стась Пажога**

## Віншаванне кс.Анджэю Возьняку

*Сардэчна віншуем пробашча нашай парафіі кс. Анджэя Возьняка з Днём Нараджэння!*

*Мы ўдзячныя Пану Богу, што ў нас служыць гэты святар. Кс. Анджэй заўсёды знаходзіць для кожнага добрае слова, вучыць нас быць сапраўднымі хрысціянамі, шчыры ў працы і ў малітве, мае вялікі душпастырскі аўтарытэт сярод вернікаў. Жадаем нашаму паважанаму пробашчу ўсіх патрэбных даброт, плённай працы, моцы Духа Святога. Няхай Пан Бог асвеціць яго шлях, а Маці Божая заўсёды атуляе сваёй апекай!*

*З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне з г. Паставы*

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі
Заснавальнік: мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»
Выдавец: рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дыяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ

Галоўны рэдактар: кс. Віктар Місевіч
Тэхнічны рэдактар: Дзмітрый Лупач
Карэктары: Юрась Бабіч, Алена Пажога, Таццяна Смоткіна

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 5266

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3500 экз.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 04.07.2012 г. у 08.42

Юрыдычны адрас: 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
Адрас для карэспандэнцыі: 211730, вул. Кірава, д.6, г.п. Бягомль, Докшыцкі р-н, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(02157)3-30-44
e-mail: katalickivesnik@gmail.com

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ